

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша СЛОВА.*pdf*



**Першы год выдання** **№ 8 23 лютага 2022 г.**

# 21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы

## "Купалаўскі дыктант" пісалі ў Нацыянальнай бібліятэцы

18 лютага да Міжнароднага дня роднай мовы ў бібліятэцы прайшоў "Купалаўскі дыктант".

Арганізатарамі выступілі Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Мерапрыемства адбылося ў рамках святкавання 140-гадовага юбілею першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і 100-годдзя Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.








Паспрабаваць свае сілы ў валоданні нормамі беларускага правапісу, адчуць смак роднай мовы і магутнасць Купалавага слова вырашыла звыш 100 чалавек. Прамая трансляцыя мерапрыемства дала магчымасць далучыцца да дыктанта ўсім ахвочым.

Удзельнікі пісалі тэкст аднаго з артыкулаў Янкі Купалы. У ролі выкладчыка выступіў акцёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Салаўёў.

Усе ўдзельнікі атрымаюць па электроннай пошце свае вынікі, а таксама электронныя сертыфікаты ўдзельніка праекта. Тыя, хто напісаў дыктант на выдатна, стануць уладальнікамі памятных падарункаў ад арганізатараў.

***Матэрыял пададзены аддзелам сувязей з грамадскасцю.***

# Беларуская дыктоўка ад унучкі Якуба Коласа

У бібліятэцы імя Адама Міцкевіча Чырвонага касцёла 20 лютага ўрачыста адбылося літаратурнае свята, прымеркаванае да Міжнароднага дня роднай мовы. У ім прынялі ўдзел куратар бібліятэкі Галіна Фёдараўна Івуць, член літаратурнага аб'яднання "Галактыка" таленавітая паэтэса Кацярына Мяшкова, унучка Якуба Коласа Марыя Міхайлаўна Міцкевіч, аўтар многіх паэтычных зборнікаў Ядвіга Іванаўна Рай і іншыя вядомыя госці і чытачы бібліятэкі.




Кацярына Мяшкова выступіла з прывітальным словам да чытачоў і чытаннем сваіх вершаў. Узнёслыя і адухоўленыя радкі прагучалі з вуснаў Ядвігі Іванаўны Рай.

Марыя Міхайлаўна Міцкевіч нагадала прысутным, што ў гэтым годзе будзе адзначацца 140-годдзе з Дня нараджэння Я. Коласа, 100-годдзе яго сустрэчы з Янкам Купалам, 100-годдзе выхаду другога зборніка вершаў "Водгулле" і 75-годдзе выхаду паэмы "Рыбакова хата".

*"Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстравалася гісторыя народа, яго жыццё і праца, смутак і радасць, прырода, яго любоў і гнеў. Беларуская мова параўнаўча маладая. Хоць і даўно гаворыць на ёй народ, але як мова навукі, палітыкі, літаратуры, яна знаходзіцца ў стане станаўлення. Таму задача савецкай інтэлігенцыі распрацоўваць мову, пашыраць і вывучаць. Гэта дасягаецца паўсядзённым ужываннем мовы ў побыце, на рабоце, у дзяржаўных, грамадскіх і культурных установах.*



*На мой погляд, далейшае развіццё культуры рэспублікі праігрывае, і скажам прама, стаіць перад пагрозай ад недастатковай увагі да роднай мовы"*, - папярэджваў Якуб Колас у лісце ў партыйныя ўстановы незадоўга да сваёй смерці.

Беларуская дыктоўка была прадыктавана Марыяй Міхайлаўнай Міцкевіч на тэму: "Партрэт Францішка Скарыны". Партрэт асветніка, перакладчыка і першадрукара Бібліі, які прысутнічаў з зале падчас правядзення дыктоўкі, сапраўды, з'яўляецца ўнікальным творам паводле ўсіх патрабаванняў кампазіцыі і зместу, і займае пачэснае месца ў нашай гісторыі і культуры, - адзначалася ў тэксце.








У дзень правядзення свята ў бібліятэцы для чытачоў была разгорнута выстава твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, а таксама прадстаўлены багаты плён беларусазнаўчай дзейнасці ксяндза-каноніка Уладзіслава Завальнюка, пробашча Чырвонага касцёла.

Выклікае вялікае маральнае задавальненне, што родная мова годна пачувае сябе ў святынях зямлі беларускай. На ёй ідзе набажэнства, прамаўляюць святары, моляцца вернікі, збіраюцца на святы прадстаўнікі культурнай інтэлігенцыі, літаратары.

**Э. Дзвінская,** *фота аўтара.*

# Галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова":
## *“Важная роля ў папулярызацыі беларускай мовы належыць настаўніку”*

*“Важная роля ў папулярызацыі беларускай мовы належыць настаўніку”*, - заявіла галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Наталля Шапран падчас круглага стала на тэму "Родная мова роднай зямлі: пытанні развіцця і папуляцыі" ў прэс-цэнтры БЕЛТА.












- Часопісу "Роднае слова" ў наступным годзе споўніцца ўжо 35 гадоў і наша выданне самім фактам свайго існавання прызначана папулярызаваць беларускую мову. Кожная публікацыя, ілюстрацыя выконвае непасрэдна задачу падтрымкі і захавання роднага слова. Адзначу, што адзін з тых кітоў, на якім трымаецца наша дзейнасць, - служыць сродкам навуковай камунікацыі, - сказала Наталля Шапран.

Паводле яе слоў, асноўным чытацкім колам выдання лічаць выкладчыкаў. "Важна, каб дасягненні сучаснай навукі і любыя аспекты філалогіі былі больш даступныя педагогам, таму што яны натхняюцца інфармацыяй. Такім чынам настаўнікі растуць прафесійна і дзеляцца адкрыццямі са сваімі выхаванцамі. Бывае, што пакуль якое-небудзь акадэмічнае адкрыццё рэалізуецца ў манаграфіі або энцыклапедычным выданні, яно ўжо даступна педагогу праз публікацыю ў выданні "Роднае слова". Часта гэта эксклюзіўны матэрыял, які тут жа пачынае гучаць на сучасным уроку", - адзначыла галоўны рэдактар.

Яна звярнула ўвагу на ўклад выдання ў папулярызацыю роднай мовы. "Можна сказаць, што за перыяд існавання часопіса былі апублікаваны тысячы практыка-арыентаваных матэрыялаў. Гэта і распрацоўкі ўрокаў пазакласных мерапрыемстваў, дыдактычныя матэрыялы. Усё гэта дае педагогу магчымасць быць не проста чалавекам, які прыходзіць на ўрок і выкладае закладзены праграмай матэрыял, а быць транслятарам тых ідэй, што вылучаюць беларускую культуру як элітарную", - лічыць яна.

"Мне здаецца, што ў папулярызацыі беларускай мовы важная роля належыць асобе выкладчыка. Калі малады чалавек бачыць, што выкладчык шчыра гарыць тым, аб чым гаворыць, робіць гэта цікава, калі ён бачыць усё тое каштоўнае, што было і ёсць у нашай айчыннай культуры, то яго стаўленне да беларускай мовы змяняецца", - падзялілася галоўны рэдактар.

Акрамя таго, Наталля Шапран адзначыла, што на выданне "Роднае слова" таксама ўскладзена грамадска-асветная дзейнасць. "Мы, як і многія ўстановы адукацыі, праводзім рэспубліканскія навуковыя конкурсы па даследчых і творчых работах. Тая колькасць удзельнікаў, якія бывае, паказвае, што ў моладзі ўключыўся інстынкт самазахавання. Яны адчуваюць, што веданне беларускай мовы важна для станаўлення іх асобы", - сказала яна на заканчэнне.

***21 лютага, Менск. Кар. БЕЛТА.***

# Як і калі вуліцы мяняюць назвы?



Гісторык і экскурсавод Іван Іванавіч Сацукевіч - выдатны знаўца тапанімікі Менска, захапляльны прамоўца і папулярызатар, член камісіі па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Менска пры Мені гарвыканкаме, гісторык, выкладчык БДЭУ, выступіў 16 лютага з лекцыяй у Нацыянальнай бібліятэцы на тэму: "Адлюстраванне гістарычнай памяці ў назвах вуліц Менска".

- Жыць камфортна ў вялікім мегаполісе і не ведаць тлумачэння назваў вуліц - несумяшчальныя рэчы! - падкрэсліў падчас сваёй прамовы Іван Сацукевіч. - Хацелася б, каб мы ведалі, чаму так называецца той ці іншы аб'ект нашага горада!

Дзвесці гадоў таму насельніцтва Менска складала 7-8 тыс. чалавек, а сёння больш за 2 млн.- кажа краязнавец. -У губернскім горадзе Расіі было 37 вуліц. Сёння Менск налічвае каля 1500 вуліц, завулкаў, плошчаў бульвараў праездаў.

Іван Іванавіч распавёў пра старажытныя назвы цэнтра Менска, узгадаў пра Траецкую гару, Высокі рынак, вуліцы Юраўскую, Нямігаўскую, Феліцыянаўскую і іншыя, пра тое, як наш галоўны праспект быў вуліцай Аляксандраўскай і Захараўскай.

Раней у адным з артыкулаў Іван Сацукевіч адзначаў, што кожная новая ўлада, якая авалодвала горадам, рабіла спробы змяніць тапанімаіку.Так *"8 жніўня 1919 года польскія войскі ўвайшлі ў Менск. 1 верасня беларуская газета "Звон" паведаміла, што ў магістраце зладжана камісія, якая перагледзіць назвы вуліц..*

*Васьмі вуліцам былі вернуты назвы, існаваўшыя да 1866 года, калі яны былі пераіменаваныя пасля паўстання 1863-64 гадоў. Спадзяванні беларускага асяродка на вяртанне гістарычных назваў спраўдзіліся: Багадзельная зноў стала Феліцыянаўскай (сёння Камсамольская), Гандлёвая - Зыбіцкай (Гандлёвая), Губернатарская - Францішканскай (Леніна), Манастырская - Бернардзінскай (Леніна), Петрапаўлаўская -Даміліканскай (Энгельса). Плошча Свабоды, якая да Лютаўскай рэвалюцыі называлася Саборнай, была пераіменавана ў Кафедральную. Камісія магістрата працягвала сваю дзейнасць. У 1919 годзе выйшаў Plan Minska, у якім былі ўжо пазначаны не 10, а 24 пераіменаваныя вуліцы і плошчы.*

*28 чэрвеня 1941 года ў Менск увайшлі нямецкафашысцкія захопнікі. Ужо ў верасні на старонках беларускіх газет з'явіліся новыя назвы, а даваенныя пазначаліся, як былыя. З 350 вуліц і плошчаў было пераіменавана 135. Імёнамі асобаў з гісторыі Беларусі і дзеячаў нацыянальнага руху былі названы 23 вуліцы горада: вул. Рагнеды (былая Марата), Усяслава (Гогаля), Багушэвіча (Чырвонасцяжная) Багрыма (Чычэрына), Каганца (Фабрыцыюса), Луцкевіча (Талстога), Алеся Гаруна ( Бялінскага).*

*Пераіменаванне вуліц у гонар дзеячаў беларускага нацыянальнага руху падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 - гэта адлюстраванне спробы немцаў прыцягнуць да супрацоўніцтва частку беларускага грамадства. Беларускі нацыянальны асяродак быў незадаволены афіцыйным пераіменаваннем вуліц і плошчаў."*

Іван Іванавіч закрануў у лекцыі тэму пераіменавання вуліц у 90-тыя і -2000-я гады, калі памянялі свае назвы вуліца Горкага - на М. Багдановіча, б. Луначарскага - на бульвар У. Мулявіна і іншыя. І. Сацукевіч адзначыў, што ў сёняшніх рэаліях падаецца шмат заявак на пераіменаванні вуліц, але далёка не па ўсіх прымаецца станоўчае рашэнне.

На сустрэчы Іван Сацукевіч таксама прадставіў сваю кнігу "Мінск: з руінаў да росквіту", якая прысвечана пасляваеннай гісторыі сталіцы ў перыяд з 1944 па 1979 год і распавёў пра летнія пешаходныя вандроўкі па Менску, якія ён арганізуе з турыстычнай фірмай "Хатабыч".

***Э. Дзвінская, фота аўтара.***

# Створана Аматарскае аб'яднанне сяброў беларускай мовы імя Францішка Багушэвіча

*Мы зменім сродкі, зменім імя,*
*Мы зменім тых, хто нас вядзе,*
*Але запэўню вас ў адзіным:*
*Мы не падзенемся нідзе.*
***Станіслаў Суднік,** 1999 г.*

Трохі больш за месяц таму назад група грамадзян горада Ліды і раёна падала заяву дырэктару Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы з просьбай даць дазвол на ўтварэнне пры Філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3"Аматарскага аб'яднання сяброў беларускай мовы імя Францішка Багушэвіча. Бібліятэка № 3 ужо недзе з 2012 года была апорным пунктам лідскага ТБМ. Тут праходзілі ўсе сходы і канферэнцыі ТБМ, тут сябры ТБМ недзе ўжо гадоў шэсць пішуць агульнанацыянальныя дыктоўкі да Міжнароднага дня роднай мовы.

За месяц былі падрыхтаваны ўсе неабходныя дакументы: Статут, Пашпарт, Спіс сяброў, План дзейнасці, і вось 20 лютага адбыўся ўстаноўчы сход.

Старшынём аб'яднання абраны Станіслаў Суднік - былы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

Намеснікамі Старшыні абраны Сяржук Чарняк - былы намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ і Міхась Мельнік - былы сябар рады Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

Аматарскае аб'яднанне не праходзіць дзяржаўную рэгістрацыю, мае вельмі мала правоў, ну прыблізна столькі, колькі правоў мае гурток аматараў кактусаў, але дае магчымасць прыхільнікам беларускай мовы весці працу па адраджэнні мовы, не апасаючыся абвінавачвання ў нейкай там падпольнай дзейнасці. Аматарскае аб’яднанне можа праводзіць мерапрыемствы згодна са сваім планам, не пытаючы лішні раз розных дазволаў. Ды і месца заўсёды ёсць.

Спадзяёмся, што неўзабаве такія аматарскія аб'яднанні паўстануць і ў іншых мясцінах Беларусі. Прынамсі, захады для гэтага ўжо робяцца ў Менску, Нясвіжы і іншых








гарадах.

Распрацавна эмблема, але яна - не догма. Тым не менш, пажадана, каб, калі ў іншых мясцінах захацелі нешта паправіць, то мянялі б толькі колеры і знак на левым полі. Знак Скарыны падкрэслівае пераемнасць. Ён павінен быць. Колеры тут - колеры лідскага герба. У іншых месцах могуць быць іншыя. Заміж **Ў** можна ставіць нешта сваё (герб горада ці іншы знак). А можна і не мяняць нічога. Пакуль пра нейкую агульную эмблему для ўсёй Беларусі не гаворым.

***Яраслаў Грынкевіч.***

На здымках: кіраўнікі аб’ядняння - Станіслаў Суднік, Міхась Мельнік і Сяржук Чарняк.

# Мерапрыемствы да Дня роднай мовы ў Палацы культуры горада Ліды

18 ЛЮТАГА Ў ПАЛАЦЫ КУЛЬТУРЫ ГОРАДА ЛІДЫ НА ПРАЦЯГУ ДНЯ ПРАХОДЗІЛА СВЯТА СЛОВА "ГАВОРЫЦЬ СЭРЦА РОДНАЙ МОВАЙ"

Пачаўся дзень з акцыі "Вітаемся па-беларуску".








А вечарам госці Палаца культуры перад спектаклем-камедыяй "Прымакі" паводле п'есы Я. Купалы (ДУК "Слонімскі драматычны тэатр") спаборнічалі ў ведах беларускай мовы ў інфармацыйна-гульнявой праграме "Пагуляем у роднае слова", дзе з задавальненнем адгадвалі беларускія словы.

Да Міжнароднага дня роднай мовы быў запушчаны інтэрнэт-праект "#Беларускіярыфмы" - кожны ахвочы мог перадаць мілагучнасць і сілу нашай роднай беларускай мовы.

Любіце, шануйце і размаўляйце на роднай мове!

***Наш кар.***

# 15-я Агульнанацыянальная дыктоўка ў Мінойтах

15-я Агульнанацыянальная дыктоўка на Лідчыне сёлета па добрай старой традыцыі пачалася з вёскі Мінойты.

19 лютага ў мясцовай бібліятэцы сабраліся тутэйшыя жыхары, прыехалі з Ліды рэдактар газеты "Наша слова.pdf" і часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік, а таксама бард Сяржук Чарняк.

Пісалі тэкст Анатоля Іверса "Ён адкрыў мне Беларусь" пра Янку Купалу, у тым ліку і пра прыезд народнага песняра ў Ліду ў 1940 годзе.

Чытала тэкст былы бібліятэкар Мінойтаўскай бібліятэкі Марыя Арцёмаўна Бойка. Праверку напісанага праводзілі ў рэжыме самакантролю.







У канцы з беларускім рэпертуарам выступіў Сяржук Чарняк.

Удзельнікі атрымалі па тры нумары "Лідскага летапісца" розных гадоў.

***Наш кар.***

# Дыктоўка ў 3-й гарадской бібліятэцы г. Ліды

20 лютага ў Філіяле "3-я гарадская бібліятэка г. Ліды" прайшла 15-я Агульнанацыянальная дыктоўка. У дыктоўцы бралі ўдзел былыя актывісты ТБМ і прадстаўнікі творчай моладзі Ліды.

Пісалі тэкст Анатоля Іверса "Ён адкрыў мне Беларусь" пра Янку Купалу, у тым ліку і пра прыезд народнага песняра ў Ліду ў 1940 годзе.





Чытала тэкст загадчыца філіяла Алена Янаўна Папковіч.





Пасля дыктоўкі адбыўся невялікі канцэрт з удзелам барда Сяржука Чарняка і гітарыста Арцёма Станчыка.

*Наш кар.*

# Удзел Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы ў 15-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы

Міжнародны дзень роднай мовы штогод выступае нагодай для таго, каб пазнаць нешта новае пра беларускую культуру і мову, адкрыць сваю краіну іншай і ўбачыць у сваёй культуры сапраўдныя каштоўнасці.

Штогод у краіне да свята праходзяць разнастайныя мерапрыемствы: ад забаўляльных праграм і адукацыйных праектаў да навуковых канферэнцый рознага ўзроўню. Галоўная мэта гэтых падзей - захаванне моўнай разнастайнасці ў свеце, папулярызацыя і вывучэнне роднай мовы.

Сярод вышэй адзначаных мерапрыемстваў вылучаецца Агульнанацыянальная дыктоўка, правядзенне якой ужо шмат год падтрымлівае Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы. Вось і сёлета, 21 лютага, бібліятэка запрасіла ўсіх ахвочых да напісання 15-й Агальнанацыянальнай дыктоўкі, якую прысвяцілі 140-гадоваму юбілею першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.





Далучыцца да падзеі змаглі актыўныя чытачы і супрацоўнікі бібліятэкі. Каб паспрабаваць свае сілы ў валоданні нормамі беларускага правапісу, яны напісалі артыкул Анатоля Іверса "Ён адкрыў мне Беларусь". Ролю выкладчыка выканала Алена Адамаўна Быстрыцкая, намеснік дырэктара дзяржаўнай установы культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".

Чакаючы вынікаў дыктоўкі, усе прысутныя мелі магчымасць звярнуцца да матэрыялаў кніжнай выставы "Песні беларускай валадар".

*Наш кар.*

# Дыктоўку па ўспамінах пра Янку Купалу ў Доме Валянціна Таўлая напісалі ўдала



Дом Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея не забывае пра свае традыцыі. Ужо не першы год у сценах Дома беларускага паэта праходзіць акцыя ў падтрымку роднай мовы, якая адбываецца ў Міжнародны дзень роднай мовы, 21 лютага. У межах акцыі праводзяцца канцэрты, гульні, забавы, выстаўкі, дзе сярод іх значнае месца займае напісанне дыктоўкі.

На гэты раз, у Дом-музей, што па вуліцы Замкавая,7 сабраліся прыхільнікі роднай мовы, тыя, хто неабыякава ставіцца да яе пашырэння і развіцця. Гэта жыхары горада, паэты і супрацоўнікі Лідскага замка.

Для напісання дыктоўкі было выбрана 4 тэксты. У Доме Валянціна Таўлая было вырашана выкарыстаць успамін заходнебеларускага пісьменніка Анатоля Іверса "Ён адкрыў мне Беларусь". У ім творца ўзгадвае пра сустрэчы з Янкам Купалам, якія адбыліся ў далёкім 1939 годзе ў верасні месяцы ў Слоніме, затым у лістападзе ў Менску падчас святкавання гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Больш падрабязна аўтар узгадвае пра сустрэчу з народным песняром у Лідзе 1940 года, калі Янка Купала прыязджаў як кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Тую сустрэчу арганізаваў Валянцін Таўлай - супрацоўнік газеты "Уперад".

У сёлетні, 2022 год, спаўняецца 140 гадоў Янку Купалу, а нядаўна адзначалі і дзень нараджэнне Валянціна Таўлая - 108 год, а аўтару ўспамінаў, Анатолю Іверсу, хутка будзем адзначаць 110-годдзе з дня нараджэння. Цікавы факт: у Доме паэта, які цяпер з'яўляецца музеем, Анатоль Іверс у 1940 годзе быў на начлезе.

Тэкст чытаў па традыцыі навуковы супрацоўнік Дома Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун.

Вынікі атрымаліся наступныя. I месца за напісанне дыктоўкі атрымаў галоўны рэдактар краязнаўчага, гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец", пісьменнік Станіслаў Суднік, II месца было падзелена паміж паэтэсай Станіславай Белагаловай і музейным наглядальнікам (Лідскі замак) Янай Каспяровіч, III месца занялі адміністратар Лідскага замка Аляксандра Бурч, музыка, удзельніца клуба "Актыўнае даўгалецце" Ядвіга Кот, музейны наглядальнік (Лідскі замак) Іван Альшэўскі.

За ўдзел у падтрымку роднай мовы кожны атрымаў пэўнае кніжнае выданне ("Збор твораў. Міхал Шымялевіч", літаратурна-мастацкі зборнік № 9 "Ад лідскіх муроў" за 2016-2019 гг., капыльскі літаратурны альманах № 1 "Родныя пагоркі" і інш.)

***Алесь Хітрун**,*
*навуковы супрацоўнік*
*Дома Валянціна Таўлая*
*Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*

# Чэмпіён Слоніма па шахматах пісаў беларускую дыктоўку

У нядзелю, 20 лютага, напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы, слонімцы пісалі беларускую дыктоўку. Разам з імі дыктоўку пісаў чэмпіён Слоніма па шахматах Уладзімір Літвін. Перад дыктоўкай сябры павіншавалі шахматыста з перамогай на раённых спаборніцтвах. Дыктоўку слонімцы пісалі па тэксце свайго земляка паэта Анатоля Іверса (1912-1999), якому ў траўні спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння. Гэта ўспамін паэта пра Янку Купалу "Ён адкрыў мне Беларусь".

Тэкст дыктоўкі чытала сланімчанка Кацярына Яваро̆ўская, а правяралі дыктоўку на памылкі кожны, хто ў каго пажадаў.

***Святлана Бельская.***





# Міжнародны Дзень роднай мовы ў Дамах культуры Лідчыны

21 лютага адзначаецца Міжнародны Дзень роднай мовы. З гэтай нагоды ў мэтах папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы ў перыяд з 19 па 21 лютага 2021 года ва ўсіх філіялах ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" прайшлі Агульнанацыянальныя дыктоўкі, прымеркаваныя да гэтага дня, па тэкстах, прысвечаных Году гістарычнай памяці. Таксама рэкамендаваны тэксты па творах, прымеркаваных да 500-годдзя "Малой падарожнай кніжыцы" Францыска Скарыны, да 140-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.













21 лютага ў філіяле "Ганчарскі Дом культуры" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" адбыўся квэст-гульня "Дакраніся да роднага слова", прымеркаваны да Міжнароднага Дня роднай мовы і Года гістарычнай памяці.








На Лідчыне мова жыве.

***Наш кар.***



# Лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Міхася Стральцова стала Антаніна Хатэнка

Як паведамляе Суполка беларускіх пісьменнікаў, у 2022 годзе рашэннем журы ў складзе Алены Стральцовай, Уладзіміра Някляева, Барыса Пятровіча, Міхася Скоблы і Аксаны Спрынчан літаратурная прэмія Міхася Стральцова была прысуджана паэтцы Антаніне Хатэнка з фармулёўкай: "За вернасць класічным літаратурным традыцыям, тэматычнае і вобразнае багацце мовы, папулярызацыю паэтычнымі сродкамі народных звычаяў і абрадаў".



Антаніна Хатэнка нарадзілася ў сям'і настаўніка 28 красавіка 1956 года ў вёсцы Зенькаўцы Зэльвенскага раёна Гарадзенскай вобласці. Скончыла Пружанскую школу-інтэрнат (зараз - СШ № 4). Скончыла філалагічны факультэт БДУ (1978). Працавала настаўніцай беларускай, рускай мовы і літаратуры ў Задор'еўскай сярэдняй школе. Праз год вярнулася ў Менск, працавала ў кнігарні "Палітычная кніга" (1979-81), карэктарам, малодшым рэдактарам выдавецтва "Народная асвета" (1982-85), у "Белтэлерадыёкампаніі", працавала вядучым спецыялістам па этнаграфіі ААТ СП "Іўкон". Першай вядомай спробай паэзіі быў гімн гораду Пружаны. Аўтар кніг "Здзічэлае рэха вясны", "Зніч крыжовых дарог", "Чалавек на далоні Сусвету" і інш. Першы лаўрэат прэміі імя Анатоля Іверса (2019). Кнігу выбранага "Вербніца", якая была падрыхтавана да гэтай урачыстасці, ужо можна купіць у Акадэмкнізе і ў інтэрнэт-кнігарнях Тэхналогія і Knihi.by.

*Паводле СМІ.*

# Кніга легендаў і паданняў ад Сяргея Чыгрына

У менскім выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выйшла з друку прыгожая кніжка легендаў і паданняў Сяргея Чыгрына са Слоніма "Камень-бацька і камень-сын". Кніжка выйшла ў серыі "Беларускія пісьменнікі - дзецям" накладам 1600 асобнікаў.




У кнізе занатаваны і апрацаваны прыклады вуснага народнага мастацтва, сабраныя аўтарам на працягу многіх гадоў ад сваіх землякоў на Слонімшчыне, Зэльвеншчыне і Дзятлаўшчыне. Праз легенды і паданні жыхары гэтых рэгіёнаў здаўна імкнуліся растлумачыць мясцовыя аб'екты і назвы вёсак, рэчак, азёраў, крыніц, асобных дрэў, камянёў, лясных мясцін, урочышчаў і інш. У аснове тлумачэння ляжаць легендарныя падзеі, уяўна-фантастычныя сюжэты, імёны канкрэтных людзей і звышнатуральных істот, якія ў гістарычным часе абраслі домысламі. Народнай фантазіяй аздоблены кароткія паданні, у якіх дзейнічаюць істоты язычніцкай славянскай міфалогіі - чорт, змей, русалка, лесавік і г.д.

Кніга Сяргея Чыгрына "Камень-бацька і камень-сын" будзе карыснай і цікавай для ўсіх, каму дарагая родная мова і культура, фальклор і наша гісторыя.

*Альжбета Руніцкая.*

# ГІСТОРЫЯ У ДРОБЯЗЯХ

У сярэдзіне лютага ва ўсім свеце святкуюць Дзень дарэння кніг, а адна з бібліятэк Лідчыны атрымала ад свайго чытача крыху іншыя падарункі. 15 лютага ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Дворышча" адбылася ўрачыстая перадача новых экспанатаў у этнаграфічны пакой "Спадчына" ад жыхара вёскі Эйтуны Пятра Леанардавіча Ензы. Мерапрыемства прайшло ў рамках Года гістарычнай памяці.













Падчас сустрэчы юнакі і дзяў-чаты даведаліся, што першае згадванне аб паселішчы Дворышча і першым яго ўладальніку Юрыі Ільінічу адносіцца да 1524 года (Юрый Ільініч - дзяржаўны дзеяч ВКЛ, маршалак гаспадарскі і намеснік лідскі, памёр каля 1526 года). З 1569 года гэтай зямлёй валодаў найбуйнейшы магнат ВКЛ - Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка). З 1578 года да канца XVIII стагоддзя маёнтак знаходзіўся ў пажыццёвым валоданні ў манахаў езуіцкага ордэна. Пётр Енза паказаў і распавёў аб прадметах, якія ён сабраў у нашай мясцовасці: крыжыкі, гузікі, манеты, медальёны, прадметы начыння, якімі карысталіся мясцовыя жыхары шмат гадоў таму. Кожны прадмет - гэта гісторыя і лёс тых людзей, каму яны належалі.

*Загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"*
***Марцінкевіч Дар'я Антонаўна.***

# Яшчэ пра любоў без смерці...

## *Дзень святога Валянціна ў літаратурным клубе "Экватар"*

У бібліятэцы № 1 г. Менска 11 лютага 2022 года адбыўся творчы вечар, арганізаваны літаратурным клубам "Экватар", прысвечаны надыходзячаму Дню святога Валянціна. Ва ўтульнай зале бібліятэкі сабраліся навучэнцы менскіх каледжаў, аматары паэзіі, выступоўцы. Перад пачаткам імпрэзы да прысутных звярнулася загадчыца бібліятэкі Лола Іназемцава, якая шчыра прывітала ўсіх прысутных і зазначыла, што вельмі рада бачыць у сваёй установе такую колькасць маладых людзей і што гэта ўсяляе ў яе пэўны аптымізм.



Праводзіў мерапрыемства паэт, пісьменнік, журналіст, кіраўнік літаратурнага клуба "Экватар" Вячаслаў Корбут. Найперш ён коратка распавёў прысутным пра гісторыю ўзнікнення свята ўсіх закаханых, названага ў гонар святога пакутніка Валянціна.



Дзень усіх закаханых (таксама Валянцінаў дзень) - свята каталіцкага паходжання, якое адзначаецца 14 лютага ў многіх краінах свету. Па меркаваннях некаторых гісторыкаў, найбольш верагодным уяўляецца тое, што святкаванне Дня святога Валянціна замяніла сабой Луперкаліі - старажытнае рымскае свята жаночай урад-лівасці, якое адзначалася ў сярэдзіне лютага. Лічыцца, што ў 496 годзе ўказам папы Рымскага Геласія I Луперкаліі былі пераўтвораны ў Дзень усіх закаханых, а Валянціна, які аддаў за каханне сваё жыццё, далучылі да ліку святых, хаця дакументаў, якія маглі б гэта пацвердзіць, нажаль, не захавалася...

Вядовец мерапрыемства зазначыў, наколькі важна ў цяперашні час захоўваць духоўную чысціню ў адносінах паміж мужчынам і жанчынай. Ён распавёў, якую вялікую ролю адыгрывае любоў у чалавечых лёсах, заклікаў паважаць сваіх каханых, і, канешне, не забываць іх радаваць у Дзень св. Валянціна валянцінкамі і іншымі падарункамі.

Вячаслаў Корбут прачытаў прысутным некалькі сваіх вершаў, сярод якіх быў і гэты пяшчотны твор пра каханне да любімай жанчыны:

Ты - магія з мелодыяй вясны,
Мелодыка мінулага спаткання,
Ты - сімвал прыгажосці і маны,
З надзеяй пекна-смелага вяртання.

Ты - сімвал нескаронай вышыні,
І мора, не адкрытае Калумбам.
Ты - існасці нязгасныя агні,
І кветка тая, скрадзеная з клумбы.

Свавольны ж у вачах гарыць агонь,
Які мяне, стамлёнага, хвалюе,
Які звяргае ў космас, а далонь
Твая апаліць вусны: алілуя!

З чаканнем нерасхрыстаных дарог
Цябе знаходжу - у сваіх сусветах,
Там ёсць і прыгажосць, і сумны Бог,
І нават часам басклапотная кабета.

Імжыць святло чужога ліхтара
З фіранкаю на промнях ад усходу,
Ты ў гэтых промнях - новая зара,
Мяне збаўляеш ад зімы і лёду.

Ты не знікай, не будзь пасля чужой,
Майго цярпення вызначыўшы вежы,
Застанься важнай для мяне мяжой,
Што пачуцця валодае бязмежжам...

Адметнай рысай імпрэзы літаратурнага клуба "Экватар", прысвечанай Дню святога Валянціна, стала прысутнасць на ёй ажно чатырох навукоўцаў, якія прыйшлі падзяліцца сваімі цікавымі развагамі на тэму кахання.



Першым навуковы сусвет выйшаў прадстаўляць кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі, паэт і бард Серж Мінскевіч. Ён расказаў сабраўшымся, што, насамрэч, існуе некалькі легенд, звязаных з імем святога Валянціна.



Згодна з Залатой легендай, уладны і жорсткі рымскі імператар Клаўдзій ІІ прыйшоў да высновы, што адзінокі мужчына, у якога няма жонкі і дзяцей, лепш будзе змагацца на полі бітвы ў гонар Цэзара, і забараніў мужчынам жаніцца, а дзяўчынам і жанчынам выходзіць замуж за каханых мужчын. Валянцін жа ў тыя часы быў урачом і святаром, ён спачуваў няшчасным закаханым і таямніча, пад покрывам ночы асвяшчаў шлюбы мужчын і жанчын. Хутка пра ягоную дзейнасць стала вядома ўладам. Валянціна пасадзілі ў цямніцу, а потым пакаралі смерцю 14 лютага 269 года.

Па іншай легендзе, рымскі патрыцый Валянцін быў тайным хрысціянінам. Ён прывёў да гэтай веры і сваіх слуг. Аднойчы Валянцін праводзіў абрад вянчання для дваіх з іх. Па даносе альбо па сцячэнні абставін усе трое былі затрыманыя вартай. Валянцін належаў да вышэйшага саслоўя і мог пазбегнуць смерці, але не ягоныя слугі. Каб неяк падбадзёрыць закаханых, ён пісаў ім лісты ў выглядзе чырвоных сэрцаў (першыя валянцінкі), якія сімвалізіравалі хрысціянскую любоў. У выніку Валянцін угаварыў варту адпусціць ягоных слуг у абмен на ягонае асабістае жыццё, і сам выйшаў на арэну смерці...

Наступнай выступала пісьменніца і журналістка, шэф-рэдактар альманаха "Літаратурны экватар" Інга Вінарская. Яна зазначыла, што, напэўна, кожны чалавек мае свой уласны погляд на каханне, асабліва, калі чалавек гэты - творчая асоба. І канешне, спадарыня Інга выйшла да прысутных са свежым нумарам свайго альманаха (№ 10 (12)), паведаміўшы, што бібліятэкі ўсіх каледжаў, навучэнцы якіх прысутнічаюць на імпрэзе да Дня ўсіх закаханых, атрымаюць свае экзэмпляры гэтага выдання з аўтографамі выступоўцаў мерапрыемства.

Спадарыня Інга прачытала некалькі сваіх вершаў, прысвечаныя каханню, даючы каментары да кожнага з іх. Сярод прагучаўшых на імпрэзе былі наступныя творы з новай кнігі Інгі Вінарскай "Гучы, маё сэрца, гучы!..": "Са



зброяй, бы ў вайне, сыдземся ў паядынку..." (на тэму любові-вайны, верш вельмі падабаецца вайскоўцам); "Эх, Папялушка, кароткі твой век..." (твор, прысвечаны несупадзенню мар пра каханне з рэаліямі жыцця); "Патанаюць у восеньскім змроку гардзіны..." (прыгожы верш пра любоў са складанымі скразнымі рыфмамі). Напрыканцы свайго выступлення Інга Вінарская прачытала твор пра каханне, якое мацнейшае за смерць:

Яшчэ пра любоў без смерці
Радкоў трохі дорыць Бог…
І мозг дзеясловам чэрціць,
Што ўсё ж зразумець не змог.

А стрэлкі так б'юць надрыўна,
Каб час свой працягваў ход.
І мяўкае ў ноч наіўна,
Заве сваю котку кот.

Дыск жоўтай поўні - з усмешкай,
І зорачак таньчыць рад.
Да сонца няма шчэ сцежкі,
Як тысячу год назад.

І так да святла далёка,
Да неба і чыстых слёз,
Адказ што чакаюць лёгка
Ў трымценні лісця бяроз.

Камень, ён упаў у строму, -
Што сэрца душыў даўно…
Прэч, чорная цемра, з дому,
Была што ў старым кіно.

Яшчэ пра любоў без смерці…
Тут смерць не ўзвядзе курок -
Ёсць воля, што светам верціць,
Пяро, што вядзе радок!..

Кірыл Бандзерс - вельмі высокі малады чалавек з доўгімі светлымі валасамі, мастак, паэт і бард, даўно стаў добрым сябрам літаратурнага клуба "Экватар". І канешне, святочная вечарына суполкі напярэдадні Дня святога Валянціна не абышлася без удзела Кірыла. Было нават цікава, што ён выканае на такім мерапрыемстве. І не, цуд не адбыўся: брутальны з нізкім голасам Бандзерс застаўся сам сабой: ён зазначыў, што спявае не пра тое, што ўсім прыемна чуць, а пра тое, што ў яго баліць. Прысутныя пачулі некалькі брутальных бандзерсаўскіх песень у ягоным фірменным стылі - са складанымі своеасаблівымі тэкстамі. Хаця, дзеля справядлівасці, хацелася б адзначыць, што маладзёвай аўдыторыі імпрэзы спевы Кірыла вельмі спадабаліся. Ніжэй прыводзім адзін з тэкстаў маладога бунтара, які напрыканцы ўсё ж мае нейкую надзею на лепшае: там узыходзяць чырвоныя макі, як сімвал будучыні:



зьмяінае вока на нітцы
на шыі дзяўчыны босай
нябеснага кола сьпіцай
гаворыць з планетай хроснай

блакітнаю рукавіцай
заціснуты дождж над краем
сухое зямлі карыца
няродам ліхім пагражае

зьмяінае вока на шыі
сваімі зьбівае росы
то значыць што злое здушылі
мінулага сівым валосьсем

учэпяцца ў рукавіцу
магутнага грому сабакі
і пад дажджавою іглiцай
узыдуць чырвоныя макі.

Пасля брутальнага Кірыла Бандзерса выступленне прыгожай мініяцюрнай бландзінкі з мілагучным голасам Таццяны Пратасевіч настроіла аўдыторыю на лірычны лад. Дарэчы, спадарыня выглядала святочна і зусім павясноваму. Прысутныя з замілаваннем глядзелі на стройную жанчыну ў ярка-блакітнай блюзцы і слухалі яе таленавітыя вершы. У выкананні Таццяны Пратасевіч прагучалі творы пра каханне, якое натхняе, узносіць людзей да нябёсаў і расквечвае іх жыццё ўсімі колерамі вясёлкі.



Наступным выступаў паэт, бард, музыка Зміцер Захарэвіч, які не так даўно вярнуўся на Радзіму. Спадар Зміцер пэўны час гастраляваў па замежжы са сваім песнямі, якія ён выконвае пад уласны акампанемент на гітары. Чалавек няўрымслівы і гарачы, Зміцер Захарэвіч літаральна захапіў сабраную аўдыторыю ў палон, калі натхнёна чытаў свае палымяныя вершы пра любоў без межаў і берагоў.



Эпатажны паэт, празаік, бард Юрась Нераток пастараўся не знізіць градус жарсці, які падняў папярэдні выступоўца. Прысутныя пачулі ў выкананні спадара Юрася вясёлыя і гарэзлівыя вершы і спевы пра каханне. Але напрыканцы свайго выступлення творца ўсё ж прачытаў перад прысутнымі ў зале некалькі сваіх лірычных вершаў, сярод якіх быў і твор пад назвай "Той год":

Гадзіны пад няўмольным метраномам
знікалі, як зярняты ў баразне…
А я з табой спаткаўся днём вясновым,
калі наўзрыд ад сонца плакаў снег.



Ляцелі дні ў надзеі непрыкметна
і аблятали, быццам квецень з лоз…
А я з табой кахаўся ноччу летняй,
калі зляцела зорачка з нябёс.

Затым былі спатканні і сустрэчы,
і хвосткі дождж цвярэзіў галаву…
А я згубіў цябе ў асенні вечар,
калі каштаны падалі ў траву.

І засыпае ранак снежным хлудам
марозная бясконцая зіма.
А снег скрыпіць бязлітасным прысудам
пра тое, што ў мяне цябе няма…

Далей ізноў выступалі прадстаўнікі беларускай навукі: кандыдат філасофскіх навук Ігар Яўгенавіч Шыршоў, а потым кандыдат педагагічных навук Якаў Рыгоравіч Анапрэенка.

Ігар Яўгенавіч раптам, нечакана для ўсіх, пачаў сваё выступленне з асабістай гісторыі любві. Ён распавёў, што ў маладосці вельмі моцна закахаўся ў чароўную дзяўчыну і згубіў гэтае сваё каханне цалкам па сваёй віне. У выніку, пражыў не сваё жыццё, не са сваёй жанчынай... Спадар Шыршоў звярнуўся да юнакоў, якія прысутнічалі на імпрэзе з такім словамі: "Хлопцы, калі вы раптам сустрэнеце сваю любоў, тую адзіную сваю каханую, то змагайцеся за яе, нягледзячы ні на што! Шанц ёсць заўсёды. Галоўнае быць смелым і ісці да канца". Потым Ігар Яўгенавіч чытаў прысутным вершы пра не надта шчаслівае каханне і цалкам пра жыццё...

Якаў Рыгоравіч Анапрэенка зазначыў, што займаўся не толькі навуковай дзейнасцю. Ён доўгі час насіў пагоны (зараз палкоўнік у адстаўцы). Вайсковая служба дастаткова складаная, а таму, гэта сапраўднае шчасце было - ведаць, што дома цябе чакае любімая адданая жонка. Спадар Анапрэенка зазначыў, што вельмі ўдзячны сваёй другой палове за гады, пражытыя разам. Празаік-дакументаліст, спадар Якаў сказаў, што ў жыцці напісаў усё ж такі некалькі вершаў, якія і прысвяціў сваёй жонцы. Адзін з гэтых паэтычных твораў Якаў Рыгоравіч прачытаў прысутным.

Завяршала канцэртную праграму святочнага мерапрыемства паэтка, пісьменніца і таксама навукоўца - супрацоўніца Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Таццяна Барысюк. Яна выйшла да аўдыторыі з альманахам "Літаратурны экватар" № 8 (10), дзе была некалі надрукавана падборка яе вершаў "Платанічнае каханне", назва якой гаворыць сама пра сабе. Усе вершы там прысвечаны любоўным перажыванням, пошукам сапраўднага кахання і свайго адзінага сапраўднага чалавека, які пакрочыць па жыцці разам. Дарэчы, спадарыня Таццяна актыўна эксперыметуе з формамі вершаў і нават сама прыдумляе іх: як, напрыклад, залатое сячэнне перавернутае. Менавіта ў гэтай форме напісаны верш пад назвай "Акрыленасць", які таксама прагучаў на імпрэзе:



Я крылы вырошчваю ў неба ўзляцець
і фарбы Сусвету захоўваю ў памяці.
Мой любы, без Вас - спусташэнне і смерць,
а з Вамі - яднанне ў касмічным арнаменце.
Вы мне прапануеце ў неба ўзляцець
ці я застануся бяскрылай і сумнай?
Без Вас - Сонца шлях мой асветліць ледзь-ледзь,
каб мне дажываць між рэаліяў тлумных.

Я крылы распраствую ў неба ўзляцець,
мае ланцугі ападаюць пры ўзлёце.
Я вольная птушка, не зомбі, не цень,
шчаслівая з Вамі ці ў новай самоце.
О, не пакідайце мяне ў тым балоце!..

Усіх выступоўцаў канцэрту зала шчыра вітала апладысментамі. На вечарыне, прысвечанай Дню святога Валянціна, дзе гучалі вершы і песні пра каханне, адчуваўся амаль вясновы настрой. Завяршылася мерапрыемства серыяй фотасесій.

*Інга Вінарская,*
*Вячаслаў Корбут.*



# Абутак, які клапоціцца пра наша здароўе і не толькі

***Вучні 11-й лідскай школы наведалі Лідскую абутковую фабрыку***

У рамках рэгіянальнага прафарыентацыйнага праекту "#Эканоміка. Асоба. Будучыня", які накіраваны на знаёмства школьнікаў і педагогаў з працай прадпрыемстваў Лідскага раёна, вучні 9-х класаў СШ № 11 г. Ліды наведалі адно з найстарэйшых прадпрыемстваў горада ААТ "Лідская абутковая фабрыка". Яго гісторыя пачала свой адлік з 1928 года. Яшчэ ў даваенны час на тым месцы, дзе сёння размешчаны сучасныя будынкі прадпрыемства, пачала працу фабрыка гумовага абутку "Ардаль", што ў перакладзе на нашу мову азначае "Галёш".







Аб гісторыі прадпрыемства, яго традыцыях і сучаснай вытворчасці пачулі вучні падчас экскурсіі па цэхах фабрыкі. Адным з самым цікавых момантаў для ўсіх стала ўласнае знаёмства вытворчасцю абутку. Школьнікі ўбачылі ўсе працэсы і этапы стварэння мадэльнага і хатняга абутку. З цікавасцю падлеткі назіралі за дзеяннямі майстроў сваёй справы. Яшчэ ў чым упэўніліся ўсе, дык гэта тое, што матэрыял, які выкарыстоўваюць на абутковай фабрыцы экалагічна чысты. Як кажуць "абутак дыхае", усё гэта дзякуючы таму, што выкарыстоўваюць прыродны матэрыял. Штогод Лідская абутковая фабрыка выпускае больш за 300 000 пар абутку ў год.

Апошнім аб'ектам наведвання стаў фірмовы магазін "Чаравічкі", дзе вучні змаглі ацаніць якасць і ўбачыць поўны асартымент і разнастайнасць дызайну на густ кожнага пакупніка.




Знаёмства з гісторыяй і вытворчасцю ААТ "Лідская абутковая фабрыка" не пакінула нікога абыякавым.

***Наталля Мікалаеўна Анашкевіч,***
***класны кіраўнік 9 "Б" класа***
***сярэдняй школы***
***№ 11 г. Ліды.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 21.02.2022 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*